Паданні створаны **Б. Уілінгхэмам**

# FABLES

Пераклад на беларускую мову:
**Артур Барадачоў**

Афармленне:
**Сяргей Козыраў**

# 4




























Світанак над фермай, загараднай уласнасцю Фэйблтаўна.
3 Pigs Esquire
Tractor Maintenance

# Пісьмо

## Глава пятая. Марш драўляных салдатаў

BILL WILLINGHAM
writer/creator

MARK BUCKINGHAM
penciller

STEVE LEIALOHA
inker

DANIEL VOZZO
color/seps

TODD KLEIN
letters

JAMES JEAN
cover

MARIAH HUEHNER
assistant editor

SHELLY BOND
editor

ДОБРАЙ РАНІЦЫ, МІС ЧЫРВАНЬ.
...МХММ-ХММ...
ВЫ ТАК ВЫГЛЯДАЕЦЕ, БЫЦЦАМ СПАЛІ Ў СВІРНЕ.
ТАК, ДЗВЕ-ТРЫ ГАДЗІНЫ. МЫ З ВЕЛУНДАМ КАВАЛЁМ УСЮ НОЧ ПРАЦАВАЛІ НАД ТРАКТАРАМ.
ТАК?
ПРАЎДА?
ЦІЛІ-ЦІЛІ, ТРАЛІ-ВАЛІ
Я ПЕРАСПАЎ З МІСІС СКУНС ТОЛЬКІ РАЗ!
НЕЛЬГА ВОСЬ ТАК АДРАЗУ ДАВАЦЬ ТАКУЮ ГАНЕБНУЮ МЯНУШКУ!
ТАКІЯ ХАРОСТВЫ І НЯГОДЫ МІЖВІДАВОГА КАХАННЯ.
**ЯКОГА** КАХАННЯ? Я АБЛАЖАЎСЯ! ЯНА **СКУНС**!
ДОБРАЙ РАНІЦЫ, ПІТ. ДЗЁННАЯ СМЕНА ПРЫБЫЛА. МОЖАШ СХАВАЦЦА Ў СВАЮ ГАРЧЫЧНІЦУ.
ВОСЬ ГЭТА ТАК... ІАААХ. УБАЧЫМСЯ ЎВЕЧАР.

А ЧАМУ Ў ЖУРНАЛЕ ДЗЁН-НЫХ ЗДАРЭННЯЎ ТАК ШМАТ **НОВЫХ** ЗАПІСАЎ?

ТАМУ ШТО МІНУЛАЙ НОЧЧУ БЫЛО ШМАТ СКАРГАЎ, ЗДАЕЦЦА, МНЕ ТРЭБА БЫЛО ГЭТА ЎПАМЯНУЦЬ, ТАК?

"Я БЫЎ ВЫМУШАНЫ ПІСАЦЬ УСЮ НОЧ, КАБ ПАСПЯВАЦЬ ЗА ІМІ".







"ДЗЕСЬЦІ Ў ЛЕСЕ. КАЖУЦЬ, ЯНА БЯЖЫЦЬ ДА МЯЖЫ".
"Я САБРАЎ ГРУПУ І ЯНЫ ДА ГЭТАГА ЧАСУ СПРАБУЮЦЬ ЗВЯЗАЦЬ ГЭТУ ЧОРТАВУЮ ХАТУ".
РАТУЙСЯ, ХТО МОЖА! РАТУЙСЯ, ХТО МОЖА!
У ГЭТЫ РАЗ НЯБЁСЫ **САПРАЎДЫ** РАЗБУРАЦЦА!


ДЗЕ ПАСТУШОК?


ЯГО НЕ БЫЛО ЎЖО ПЯЦЬ ДЗЁН.


ПЯЦЬ ДЗЁН!
НЕДАПУШЧАЛЬНА!
ЁН **ЗАКАХАЎСЯ**. УЦЁК СА СВАІМ ЛЕГКАДУМНЫМ ЧЫРВОНЫМ КАПЯЛЮШЫКАМ.
АЛЕ НЯ ТАК ЖА НАДОЎГА! ДЫ ЯШЧЭ І БЯЗ **ГОРНА**!


МАБЫЦЬ ЯНЫ ПАЖАНІЛІСЯ. Я ІДУ Ў ЗАКЛАД, ШТО ЯНЫ ЖЫВУЦЬ БЕСКЛАПОТНА Ў ГАТЭЛІ ДЛЯ **МАЛАДЫХ** ДЗЕ-НЕБУДЗЬ ЛЯ НІЯГАРСКАГА ВАДАСПАДУ.
МІСТЭР БОЗЛІ ВЫСАЧЫЎ БЫ ІХ. ДЗЕ ЁН?


ЯГО ТУТ НЯМА.
ТРЭБА ШУКАЦЬ ПАСТУШКА САМАСТОЙНА.





ТЫ МОЖАШ САБОЙ ГАНАРЫЦЦА.
ТЫ ПРАТРЫМАЎСЯ ВЕЛЬМІ ДОЎГА.
НА САМОЙ СПРАВЕ, ТЫ ДЗІЎНЫ ЮНАК.




ЦЯПЕР Я РАЗУМЕЮ, ЧАМУ САПРАЎДНЫ ЧЫРВОНЫ КАПЯЛЮШЫК ТАК ХУТКА ЗАКАХАЛАСЯ Ў ЦЯБЕ.
ЯНА І ЗАРАЗ УСПАМІНАЕ ЦЯБЕ, ЧАСАМ... І НЯ ТОЛЬКІ НА ДОПЫТАХ.
І, БЕЗУМОЎНА, НЯ ВЕДАЕ, ШТО ТЫ ВЫЖЫЎ.













**ВЕДАЙЦЕ СВАЁ МЕСЦА!**

ЁН У СВЯДОМАСЦІ – ХАЙ І ЛЕДЗЬ. ВАШЫ ДРАЎЛЯНЫЯ ПАЧУЦЦІ НЕ ТАКІЯ **ДАКЛАДНЫЯ**, ЯК МАЕ, Х'Ю.

АБРАЖАЕЦЕ, СПАДАРЫНЯ?

ДЛЯ ГЭТАГА НЯМА ПРЫЧЫН. ГЭТА ПРАЎДА, НА АДНОЙ **КАНКРЭТНАЙ** МІСІІ МЫ ПАД ВАШЫМ КІРАЎНІЦТВАМ.

АДНАК НІКОЛІ НЕ ЗАБЫВАЙЦЕСЯ, ШТО **МЫ** ВЫБРАНАЯ ЭЛІТА ІМПЕРЫІ.

САПРАЎДНЫЯ СЫНЫ ІМПЕРАТАРА.

СТВОРАНЫ ПА ЯГО ВЫЯВЕ.

МЫ НЕ ДАЗВОЛІМ МЯСАГАЛОВЫМ АБРАЖАЦЬ НАС, І НЯ **ВАЖНЫ** СТАТУС ТАГО, ХТО АБРАЖАЕ.




ВЫ МЯНЕ ЗРАЗУМЕЛІ, ДЖЭНТЛЬМЭНЫ?


ПРАБАЧЦЕ НАС, СПАДАРЫНЯ.
МЫ АБМОВІЛІСЯ.


ЦЯПЕР МЫ НАГАДАЛІ САБЕ, ШТО ВЫ САМАЯ ЦЭННАЯ ДЛЯ ІМПЕРАТАРА ЛЭДЗІ.


ПАКОРНА ПРОСІМ НАС ПРАБАЧЫЦЬ.
ЯКІЯ БУДУЦЬ ВАШЫ ЗАГАДЫ?


КАЛІ ВЫ ВЫЗВАЛІЛІ ГЭТУ БЯЗВОЛЬНУЮ ТУШКУ АД КАРЫСНАЙ ІНФАРМАЦЫІ, МЫ МОЖАМ ЯГО ЗАБІЦЬ?
ПАСЯЧЫ ЯГО ВАМ У СТУПУ?


НЕ, Я АДДАЮ ПЕРАВАГУ БОЛЬШ **ДАЛІКАТНАМУ** ЦЕЛУ ЗВЫЧАЙНЫХ **ДЗЕТАК**, ЯКІХ ВЫ ДАСТАЎЛЯЛІ.
ІХ ПАДАЗРОНА ЛЁГКА ЛАВІЦЬ У ГЭТЫМ **ГОРАДЗЕ**.
Я РАЗВАЖАЮ НАД **ДАЛЕЙШЫМ** ВЫКАРЫСТАННІ НАШАГА ЎРАЖЛІВАГА ПАСТУШКА.


RINNNG
RINNNG
МММММ? ХТО ГЭТА?
УСЁ МЁРТВЫЯ, СНЕЖКА!
ХТО ГЭТА? І ЧАМУ МЯНЕ БУДЗЯЦЬ ПАСЯРОД НОЧЫ?
ГЭТА БОЗЛІ.

Я ЛЯ БРАМЫ ПАЎНОЧНАЙ КАНАДЫ, ТУТ ВЫРАЗАНЫ ЎВЕСЬ ГАРНІЗОН КАЗАЧНЫХ.
ЁН СЦЁРТЫ.
БРАМА ЗАЧЫНЕНАЯ?

НЕ, АДЧЫНЕНАЯ... З ІНШАГА БОКУ.

МЯРКУЮЧЫ ПА СЛЯДАХ, ТУТ БЫЎ **АЖЫЎЛЁНЫ РУХ**.

МІНІМУМ ТРЫ РОЗНЫХ ГРУЗАВІКА ПАД'ЯЗДЖАЛІ ДА ЎВАХОДУ ПЯЧОРЫ, КАБ ШТОСЬЦІ ЗАГРУЗІЦЬ.

СНЕЖКА, ТЫ ПАВІННА БЫЦЬ ГАТОВА ДА **ГОРШАГА** – ДА ЎВАРВАННЯ.

ЗАЧЫНІ ФЭЙБЛТАЎН ЗАРАЗ ЖА. ЗАЧЫНІ ЎСЁ.

У МАІМ КАБІНЕЦЕ, У СЕЙФЕ ПАД СТАЛОМ ЗНОЙ-ДЗЕШ ФАЙЛ З ІНСТРУКЦЫЯМІ НА ВЫПАДАК НАДЗВЫ-ЧАЙНЫХ СІТУАЦЫЙ.

А **ТЫ**? ТЫ **ПАТРЭБНЫ** НАМ ТУТ!

БУДУ, ЯК ТОЛЬКІ РАЗБУРУ БРАМУ. НАШЫ **СТРАХОВАЧ-НЫЯ** ПАДРЫЎНЫЯ ЗАРАДЫ НЕ ЗНАЙШЛІ. ІХ ПАМЫЛКА.

Я МАГУ АБВАЛІЦЬ ПЯЧОРУ З НАШАГА БОКУ.

ПРЫЯЗ-ДЖАЙ ХУТ-ЧЭЙ, БОЗЛІ!

Я ПРЫЕДУ, СНЕЖКА.

АЛЕ ДА ГЭТАГА ЧАСУ **ТЫ** ПАВІННА ТРЫМАЦЦА.









БРАТЫ, ВЫ ГАТОВЫЯ?

Я БЕЗУМОЎНА ТРАПЯЧУ Ў ПРАДЧУВАННІ, БРАТ.

БОЛЬШ ЗА ЎСЁ Я ЖАДАЮ ВЫПУСЦІЦЬ ШМАТ КУЛЬ У БЯСКОНЦАЕ МНОСТВА МЯСІСТЫХ АСОБ.

**ШТО** ТУТ ТАКОЕ?

ЯК ТОЛЬКІ Я З’ЕХАЛА З ГОРАДА НА НЕКАЛЬКІ ДЗЁН, АДРАЗУ ПАЧАЛАСЯ **НЯСЛАБАЯ** ЗАВАРУШКА.

ТУТ ПОЎНАЕ БЛАКІРАВАННЕ З ПРЫЧЫНЫ НАДЗВЫЧАЙНАЙ СІТУАЦЫІ, ПАПЯЛУШКА.

МЫ Ў **КРЫЗІСНЫМ РЭЖЫМЕ,** ДАМЫ І СПАДАРЫ.

НА ГЭТЫ ВЫПАДАК У НАС НЕКАЛЬКІ РАЗОЎ ПРАХОДЗІЛІ ТРЭНАВАННІ.



АПОШНІ РАЗ БЫЎ ТАДЫ, КАЛІ МЫ ЖЫЛІ Ў АНГЛІЙСКАЙ КАЛОНІІ, А СУСЕДЗІ НЕ ВЫЛІЧАЛІСЯ **МІЛЬЁНАМІ**.
ЯКІМ ЧЫНАМ У НАС АТРЫМАЕЦЦА **СХАВАЦЦА** АД ЗВЫЧАЙНЫХ?
Я НЯ ПАМЯТАЮ, ШТО МЫ ПАВІННЫ РАБІЦЬ ПРЫ ЎВАРВАННІ!
А ТЫ?
ХОЦЬ **ХТО-НЕБУДЗЬ**.
ЖУДАСНА. ПА-ПЕРШАЕ, НЕАБХОДНА ПАСТАВІЦЬ ПАД СУМНЕННЕ ЎСЕ **ВЫБАРЫ**.
ДЗЕ БОЗЛІ?
ЁН ЖА БЫЎ ЗА ГАЛОЎНАГА Ў МІНУЛЫХ ВАЕННЫХ ПРАКТЫКАВАННЯХ?
ВЕДАЕЦЕ, МЫ **РАССЛАБІЛІСЯ**. КАЛІ ВОРАГ НЕ ЎВАРВАЎСЯ СЮДЫ Ў ПЕРШЫЯ ГАДЫ, МЫ ПАЛІЧЫЛІ, ШТО ЁН ГЭТАГА І НІКОЛІ **НЯ ЗРОБІЦЬ**.
АДНАК НАС НЕ АТАКОЎВАЮЦЬ ЗАРАЗ ЖА. У НАС ЁСЦЬ ЧАС ПАДРЫХТАВАЦЦА. МЫ НЕ БЕЗДАПАМОЖНЫЯ І НЕ СХІЛІМ ГАЛАВУ.


ТАК, СЛУХАЙЦЕ ЎСЕ СВАЕ ПРЫЗНАЧЭННІ. РАЗАБРАЦЦА ТРЭБА ХУТКА, КАБ Я ПАСПЕЛА НА ТРЫНАЦЦАТЫ ПАВЕРХ НА СУСТРЭЧУ З САВЕТАМ ВЯДЗЬМАРАК.
СПАЧАТКУ, НАСТУПНЫЯ ЛЮДЗІ ЗАЙМУЦЬ ТЭЛЕФОНЫ... ДЛЯ КААРДЫНАЦЫІ ПАДРЫХТОЎКІ З ФЕРМАЙ...


BLAM!


ПА ГУКУ ПАДОБНА НА...
ГЭТА БЫЎ СТРЭЛ?


BUSINESS OFFICE
S. WHITE


ЯНЫ ВЯРНУЛІСЯ!
ВЫ МНЕ НЕ ПАВЕРЫЛІ, А ЦЯПЕР ЯНЫ ВЯРНУЛІСЯ І ЗАСТРЭЛІЛІ АДДАНАГА ДЖОНА!

БАЧЫЦЕ?
ГЭТЫЯ ВЫБЛЯДКІ МЯНЕ ЗБІЛІ!
УСІМ СТАЯЦЬ.
МЫ ТУТ НЕ ДЗЕЛЯ НЕПАРАДКАЎ.
НЯ Ў ГЭТЫ РАЗ.
МЫ НАВАТ НЕ ЗАБІЛІ ВАШАГА МЯСІСТАГА ДВАРЭЦКАГА, ХОЦЬ І МАГЛІ Б, КАЛІ ЁН ПАСПРАБАВАЎ НАМ ПЕРАШКОДЗІЦЬ.

**ГЭТА** ЦЕЛА ТАКСАМА ЯШЧЭ ЖЫВОЕ.
ШЧОДРЫ ДАРУНАК НАШАЙ ВЕЛІКАДУШНАЙ СПАДАРЫНІ.




ШТО ВЫ З ІМ ЗРАБІЛІ, МОНСТРЫ.
НЯ СМЕЙ НАС АБРАЖАЦЬ, ЖАНЧЫНА! **ПАВАЖАЙ** ЛЕПШЫХ.
У РЭШЦЕ РЭШТ, ЁН ТОЛЬКІ АДНАРАЗОВАЯ **ТУША** - І Ў ВЫНІКУ ЕЖА ДЛЯ КАРАНЁЎ І ЧАРВЯКОЎ.
МЫ ПРЫНЕСЛІ ПАСЛАННЕ - ВЕЛЬМІ **ВАЖНАЕ** ПІСЬМО.
СТОЙЦЕ РАХМАНА І СЛУХАЙЦЕ... У ПОЎНАЙ ГЛЫБОКАЙ ПАШАНЫ ЦІШЫНІ.


"ВАШ ІМПЕРАТАР ВІТАЕ ВАС".
"НАШЫМ ПАДДАНЫМ У ФЭЙБЛТАЎНЕ І ВА ЎСІМ СВЕЦЕ ЗВЫЧАЙНЫХ".


"НАША КАХАННЕ ДА ВАС НЕПАМЕРНА ЦЯРПЛІВАЕ, БЫЦЦАМ КАХАННЕ БАЦЬКІ ДА БЛУДНАГА СЫНА. З БЯЗМЕЖНЫМ СПАЧУВАННЕМ МЫ ЧАКАЕМ ТОЙ ДЗЕНЬ, КАЛІ ВЫ ЎСЕ ВЕРНЕЦЕСЯ Ў НАША ЎЛОННЕ".
НАПРАМІЛЫ БОЖА! ГЭТА **ВОРАГ**!
«АЛЕ НІ Ў ЯКІМ РАЗЕ НЕ ТУРБУЙЦЕСЯ, ШТО МЫ ВЫРАШЫМ ВЯРНУЦЬ ВАС СІЛКОМ. НАШ ПОГЛЯД ЗАРАЗ НАКІРАВАНЫ НА ІНШЫЯ КАЗАЧНЫЯ ЗЕМЛІ, ЯКІЯ ЛЮБАТА ІМПЕРЫІ ЯШЧЭ НЕ ЎВАЖЫЛА".

“УСІМ СЭРЦАМ МЫ ЖАДАЕМ НЕ ЧАПАЦЬ ВАС У ВАШЫМ САМААХВОТНЫМ ВЫГНАННІ ДА ТАГО ЧАСУ, ПАКУЛЬ ВЫ НЕ ЗРАЗУМЕЕЦЕ СВАЮ БЕЗРАЗВАЖНАСЦЬ І НЕ ДАЛУЧЫЦЕСЯ ДА НАС ДОБРААХВОТНА”.

“ДЛЯ ПАДТРЫМКІ Ў ДАЛЕЙШЫМ АДПРАЎЛЯЮ ДА ВАС ДАВЕРАНУЮ АСОБУ ІМПЕРЫІ, ВЫСАКАРОДНУЮ ЛЭДЗІ НАШАГА ДВАРА, БОЛЬШ ВЯДОМУЮ ЯК ЧЫРВОНЫ КАПЯЛЮШЫК. ЯНА ЗНАХОДЗІЦЦА ПАД НАШАЙ АБАРОНАЙ І ЯНА НАШ ГОЛАС”.










УСЁ?
НА ГЭТЫМ ПІСЬМО СКАНЧАЕЦЦА.
ТАДЫ АДДАЙЦЕ ЯГО І **ВЫМЯТАЙЦЕСЯ**, ПАКУЛЬ МОЖАЦЕ.


БЕРАЖЫЦЕ ГЭТЫ ДАКУМЕНТ, ЁН СВЯШЧЭННЫ.
АДНАК ЁСЦЬ ЯШЧЭ АДНА РЭЧ, ЯКУЮ СПАДАР НЕ ЗАКРАНУЎ У ПІСЬМЕ.
ХТО Б ВЕДАЎ, ШТО ЁН ТУТ, **СЯРОД ВАС**?


ЗАЎТРА, КАЛІ МЫ ВЕРНЕМСЯ ЗА ЎЛАСНАСЦЮ ІМПЕРАТАРА, МЫ ТАКСАМА ЗАБЯРОМ З САБОЙ ВЫСАКАРОДНАГА ПІНОКІА.
ШТО?
ЧАМУ **МЯНЕ**?


ТЫ **ПЕРШЫ ВЫГАБЛЕВАНЫ**. ТЫ НАШ СТАРЭЙШЫ БРАТ.
МЫ КАХАЕМ ЦЯБЕ... НЯГЛЕДЗЯЧЫ НА ТОЕ, ШТО ЦЯБЕ САПСАВАЛА НЕЧАКА-НАЕ ПЕРАТВАРЭННЕ Ў ТУШУ.


АЛЕ НЯ БОЙСЯ. ВЯДЗЬМАКІ НАША-ГА ІМПЕРАТАРА ЛЁГ-КА ЗМОГУЦЬ ЗНЯЦЬ ГЭТЫ ПРАКЛЁН... ЗРО-БЯЦЬ ЦЯБЕ ЗНОЎ ЦЭ-ЛЫМ, ЗДАРОВЫМ І ДРАЎЛЯНЫМ.
КАБ САБРАЦЬ СВАЕ РЭЧЫ І РАЗВІТАЦЦА З ГЭТЫМ НАТОЎПАМ, У ЦЯБЕ ЁСЦЬ ДЗЕНЬ, БРАТ.


УСІМ ЗАСТАВАЦЦА ЎНУТРЫ, ПАКУЛЬ МЫ НЕ ПАКІНЕМ ВАС.
У АДВАРОТНЫМ ВЫПАДКУ МОЖА ЗДАРЫЦЦА ШМАТ БЯЗЛАДНАЙ СТРАЛЬБЫ.


ПАМЯТАЙЦЕ: У ВАС ЁСЦЬ ТОЛЬКІ ДВАЦЦАЦЬ ЧАТЫРЫ ГАДЗІНЫ!


ГЭТА БЫЛІ ПІНОКІА!
УСЕ ТРЫ – ДЗЁБАНЫЯ **ПІНОКІА!** МАРКІТАВАНЫЯ ДРАЎЛЯНЫЯ **ЛЯЛЬКІ!**
**НЯДЗІЎНА,** ШТО Я НЯ МОГ ІХ ЛЯСНУЦЬ!
НЯ ЗАРАЗ, ДЖЭК.
ХОЦЬ **РАЗ У ЖЫЦЦІ** ПАКАЖЫ ТАКТОЎНАСЦЬ.


МУХАЛОЎ... ПРЫНЦ ... ДАСТАЎЦЕ ПАСТУШКА І ДЖОНА Ў **ШПІТАЛЬ**... ЗАРАЗ ЖА.
МЫ АБВЯСЦІМ ДОКТАРУ СВІНОЕ СЭРЦА, ШТО ВЫ ІДЗЯЦЕ.
ПОТЫМ ВЯРТАЙЦЕСЯ СЮДЫ ЯК МАГА ХУТЧЭЙ. НАМ ТРЭБА ШМАТ ЧАГО ЗРАБІЦЬ.

ТЭЛЕФАНАВАЛІ СА ШПІТАЛЯ, ПАСТУШОК ЖЫВЫ.
ПІНОКІА, ТЫ МЯНЕ ЧУЎ?
КАЖУЦЬ, З ІМ УСЁ БУДЗЕ ДОБРА.
ТАК, МУХ, ЧУЎ. ВЫДАТНАЯ НАВІНА.

ВОЎ, ШТО ТЫ ТУТ РОБІШ?
ЗБІРАЮ РЭЧЫ. ТЫ ЧУЎ, ШТО ЯНЫ СКАЗАЛІ. Я ПАВІНЕН ПАЙСЦІ З ІМІ, КАБ НЕ ДАПУСЦІЦЬ ВАЙНЫ.
ГЭТА ТОЛЬКІ ТРЫ ДРАЎЛЯНЫЯ ЛЯЛЬКІ. МЫ ЛЁГКА ЗДОЛЕЕМ ІХ.

МЫ **БАЧЫЛІ** ТОЛЬКІ ТРОХ. НІЧОГА ДОБРАГА НЯ БУДЗЕ. КАЛІ ТЫ ПАМЯТАЕШ, Я БЫЎ АДНЫМ З ІХ. ЯНЫ ДУЖЫЯ, МОЦНЫЯ, НЕ ЯДУЦЬ, НЯ СПЯЦЬ, НЕ АДЧУВАЮЦЬ БОЛЮ.
МЫ Ў **ВЯЛІКАЙ** БЯДЗЕ.

АКРАМЯ ТАГО, Я Ў ЛЮБЫМ ВЫПАДКУ ПАВІНЕН ПАКІНУЦЬ ВАС. ХІБА ТЫ НЕ РАЗУМЕЕШ, ШТО АЗНАЧАЕ ІХ ІСНАВАННЕ?
АЖЫЛЫЯ ДРАЎЛЯНЫЯ САЛДАТЫ ВОРАГА **ДАВОДЗЯЦЬ**, ШТО МОЙ БАЦЬКА ЖЫВЫ. ЁН ІХ **СТВАРЫЎ**.
ТАТА ДЖЭПЕТА СТАЎ **НЯВОЛЬНІКАМ** ВОРАГА.